**ЧАМУ МАГІЛЁВУ**



НЕ ПАТРЭБНЫ ІНВЕСТЫЦЫІ

СТАР. 5

ТУТ І ЦЯПЕР

WWW.SVABODABY.NET

**ЯК БЕСПРАЦОЎНЫЯ**



СТАНОВЯЦЦА "НЕВІДЗІМКАМІ"

СТАР. 6-7

**БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА** **26.04.12-2.05.12 г.**

# БЕЛАРУСЫ СТАЛІ ЖЫЦЬ ЛЕПШ?

**Не так даўно прэм'ер-міністр Беларусі Міхаіл Мясніковіч бадзёра адрапартаваў кіраўніку дзяржавы: «У Беларусі адзначаецца паляпшэнне эканамічнага становішча на ўсіх узроўнях».**




*Калі верыць нашаму БТ, у нас ужо даўно суцэльнае шчасце*

Тым не менш многія скардзяцца: пойдзеш у краму за самым неабходным — пакінеш ледзь ці не палову заробка. Можа, людзі проста не хочуць заўважаць, што сталі жыць лепш, і па звычцы бурчаць і на ўрад, і на жыццё?

У гэтым пытанні спрабавала разабрацца **«Тут і цяпер».**

## ЖЫЦЦЁ СТАЛА БОЛЬШ ПРЫГОЖЫМ

Калі верыць статыстыцы, то ў першым квартале прамысловасць краіны спрацавала з рэнтабельнасцю продажаў 10,4%, сельская гаспадарка — 15,3%. «Такім чынам, палітыка закупачных цэн, маркетынгавая палітыка сведчыць пра тое, што эканамічны стан гаспадарчых суб'ектаў значна палепшыўся, — гаворыцца ў адным з нядаўніх паведамленняў прэзідэнцкай прэс-службы. — Што тычыцца эканомікі краіны ў цэлым, то, па статыстыцы, за студзень-люты бягучага года склалася станоўчае сальда ў памеры $ 838 мільёнаў. Гэтыя даныя ўключаюць не толькі гандлёвы абарот. Расце прыток валюты ў краіну — ён зараз перавышае яе адток крыху больш чым на 900 мільёнаў долараў.

Такім чынам, паляпшэнне эканамічнага становішча адзначаецца на ўсіх узроўнях: і на прадпрыемствах, і ў рэгіёнах, і ў цэлым па краіне. Павялічваецца і тавараабарот: у студзені бягучага года ён склаў 103,5% да досыць высокага ўзроўню першага квартала 2011 года, калі адзначаўся павышаны попыт на прадукцыю; у сакавіку павялічыўся яшчэ на 10,5%».

## ХАТНЯЯ ЭКАНОМІКА

Мінчанка **Ірына Руткоўская** адна выхоўвае 14-гадовую дачку. Працуе старшым менеджарам у адной з прыватных кампаній. У месяц зарабляе каля 6 мільёнаў. Да таго ж муж выплачвае аліменты — прыкладна 200 долараў штомесяц.

«Натуральна, мы не шыкуем, — распавядае Ірына. — Два разы на месяц — з зарплаты і авансу — я абавязкова набываю ў краме чырвоную рыбу, мяса (вяндліну або паляндвіцу), макарону, крупы, агародніну. У звычайныя дні мы купляем хлеб, ёгурты, сыр, кефір, прычым не ў бутэльках (ён даражэйшы), а ў пакетах. Выбіраю ўсё самае таннае. Пару разоў на месяц, калі не хочацца гатаваць, можам заехаць у "Макдоналдс". Я абедаю на працы — нам заказваюць ежу ў офіс, часцяком прыношу дачцэ на вячэру адбіўныя ці курачку са свайго абеду, на снеданне ў мяне — толькі кава. Вячэра — салата, тварог, бутэрброд. Гэта наш звычайны рацыён. Як бачыце, нічога звышнатуральнага. Нават атрымліваецца нешта адкладваць на адпачынак — былы муж плаціць аліменты ў валюце, і мы яе не трацім».

*Заканчэнне на стар. 3*

**НАВІНА**

# СЕВЯРЫНЦУ АДМОВІЛІ

Бо не прызнаў віны і не раскаяўся.

Такое рашэнне прыняло 26 красавіка кіраўніцтва спэцкамендатуры №7 у вёсцы Куплін Пружанскага раёна Брэсцкай вобласці, дзе той адбывае пакаранне, піша БелаПАН.

«Учора прайшла атэстацыя, падчас якой вырашалася, хто можа быць ўмоўна-датэрмінова вызвалены, - сказаў Севярынец. – Зачыталі маю характарыстыку – яна была станоўчая. Аднак паколькі я не прызнаў сваёй віны і не раскаяўся, ва ўмоўна-датэрміновым вызваленні мне адмовілі».

* * *

Севярынец, які падчас выбараў 2010 года кіраваў выбарчым штабам кандыдата ў прэзідэнты Віталя Рымашэўскага, 16 мая мінулага года быў асуджаны судом Заводскага раёна Мінска да трох гадоў абмежавання волі па ч. 1 арт. 342 Крымінальнага кодэкса (арганізацыя і падрыхтоўка дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак, або актыўны ўдзел у іх).

19 красавіка мінула палова тэрміну пакарання палітыка, у сувязі з чым ён мог быць вызвалены ўмоўна-датэрмінова. Па словах Севярынца, супрацоўнікі спецкамендатуры характарызавалі яго як стаўшага на шлях «цвёрдага-цвёрдага і вельмі цвёрдага выпраўлення».

# ХТО ХОЧА ПРАГЛЫНУЦЬ БЕЛАРУСЬ?

Улада вылучыла версію цяперашняй палітыкі ЕС у адносінах да Беларусі: маўляў, Еўрапейскі Саюз, па сутнасці, імкнецца... "з'есці" найбольш смачныя кавалкі нашай краіны. "Тут і цяпер" аналізавала, ці так гэта.



*Навокал адны ворагі*

**СЯРГЕЙ БАЛЫКІН, АНАЛІТЫК:**

## "МЫ НА ПАРОЗЕ ВЯЛІКАГА "РАСПІЛУ".

— Па-першае, ніхто асабліва не хоча. А па-другое, семінар у Варшаве —дзяжурнае мерапрыемства, і ў беларускай апазіцыі, насамрэч, няма ніякіх планаў па прыватызацыі і інтэлектуальнага рэсурсу для таго, каб такія планы складаць. Па вялікім рахунку, у Беларусі няма чаго "праглынаць". Няма нічога звышпрыцягальнага, акрамя геаграфічнага становішча. Цікавасць могуць уяўляць асобныя аб'екты гаспадарання для асобных суб'ектаў.

Прыватызацыя — гэта вельмі важнае пытанне. Мы знаходзімся на парозе "распілу" дзяржаўнай уласнасці, прычым па чужых правілах. І распродаж будзе адбывацца паміж кіруючымі вярхамі і прадстаўнікамі не зусім празрыстага капіталу з розных краін. Нельга казаць, што на ўзроўні нейкай дзяржавы ці міждзяржаўнага аб'яднання ёсць цікавасць да паглынання Беларусі. Цікавасць "распіліць" дзяржуласнасць і пагрэць на гэтым рукі ёсць. Але адбывацца гэты распіл будзе са згоды вышэйшага кіраўніцтва нашай краіны. І ў такіх умовах беларуская апазіцыя павінна прапанаваць разумную альтэрнатыву.

**ВАЛЯНЦІНА СЯРЫХ, ПРАДПРЫМАЛЬНІЦА (ГОМЕЛЬ):**

## "САПРАЎДНЫ ЎЛАСНІК ДУМАЕ НА ДВА-ТРЫ ПАКАЛЕННІ НАПЕРАД"

— Для таго каб прыватызацыя была эфектыўнай, яна павінна адбывацца пры ўдзеле эфектыўнага ўласніка. Ва ўмовах сучаснай Беларусі гэта немагчыма, таму што няма ні закона, ні грамадства. Намінальна прыватная ўласнасць ёсць. Дзяржаўную ўласнасць можна перадаць у прыватныя рукі, але паўнавартасным яе ўладальнікам пры ўмове атрымання па шэрай схеме ніхто не стане, бо ў любы момант можна правесці рэстытуцыю (забраць). Таму інтарэс у суб'ектаў бізнесу толькі адзін — атрымаць гэтую ўласнасць нядорага, а таксама набыць нейкі палітычны "дах". І ў найкарацейшы тэрмін "адбіць" усё гэта (здаць, напрыклад, у арэнду пад гандлёвы цэнтр ІПэшнікам па шалёных коштах). Чаму офісныя памяшканні такія дарагія? Для эканомікі ў такой прыватызацыі сэнсу няма. Сапраўдны ўласнік думае на два-тры пакаленні наперад, а злодзей думае толькі пра заўтрашні дзень, каб без праблем зваліць з барышом.

**ЯРАСЛАЎ РАМАНЧУК, ЭКАНАМІСТ:**

## "ВОРАГ НЕ КАЛЯ ВАРОТ, А ЎНУТРЫ КРАІНЫ".

— Безумоўна, тых, хто хоча праглынуць Беларусь, няма ні ў Польшчы, ні ў Брусэлі. Тут трэба казаць пра наменклатуру і тых алігархаў, якія з'явіліся ў нашай краіне за апошнія пятнаццаць гадоў. Менавіта яны хацелі б легалізаваць свае капіталы, стаць паўнавартаснымі ўласнікамі маёмасці, а потым ужо таргавацца з Захадам і Усходам. Вораг не каля варот, а ўнутры нашай краіны. І гэта тыя людзі, якія хацелі б за бясцэнак атрымаць нашу маёмасць, а народу паказаць вялікі кукіш. Наконт прыцягальнасці беларускай эканомікі: беларуская наменклатура і алігархат хацелі б задарма прыбраць да рук тое, што ў рынкавых варунках можна было б прадаць даражэй і за кошт гэтага атрымаць больш якаснае кіраванне.

**ІНЭСА, СУПРАЦОЎНІЦА НЯМЕЦКАЙ ЛАГІСТЫЧНАЙ КАМПАНІІ:**

## "І ДАРАМ НЕ ПАТРЭБНА".

— У беларусаў ёсць комплекс беларусацэнтрызму: што б ні рабілася ў свеце, робіцца вакол і дзеля Беларусі. Беларусь каштуе няшмат. Яна не з'яўляецца суб'ектам эканамічнай глабальнай гульні. І Расіі, і Еўропе ад Беларусі патрэбна адно — каб усё тут было ў парадку, каб не было сур'ёзнай канкурэнцыі, каб не выраблялі тут будматэрыялы, тэлевізары і кітайскія аўтамабілі. Усё гэта ўжо вырабляецца ў Польшчы і Расіі, таму знешнім сілам Беларусь падымаць нявыгадна. Таксама трэба, каб былі добрыя дарогі, падыдуць нават без рэстарацый і мыек. Галоўнае, каб без ямін. І ўсё. А ў сэнсе эканамічным... Леаненка мае рацыю, калі кажа аб тым, што ў рэальным сектары Еўропы ўжо няма месца. Але з такімі падатковымі інспекцыямі, з такімі судамі і ідэалагічнымі аддзеламі яно нікому і дарам не патрэбна.

**АПЫТАННЕ ПРАВОДЗІЎ ЗМІЦЕР ЗЯЗЮЛЯ**

**ДАРЭЧЫ**

## ДРАПЕЖНЫ ТВАР ЕЎРАСАЮЗА

За дэкларатыўнай палітыкай Еўрасаюза хаваецца жаданне завалодаць прадпрыемствамі Беларусі, заявіла карэспандэнту БелТА член Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў па міжнародных справах і сувязях з СНД Валянціна Леаненка, каментуючы правядзенне ў Варшаве семінара па пытаннях прыватызацыі ў Беларусі з удзелам высокапастаўленых чыноўнікаў ЕС і Польшчы, а таксама лідара адной з беларускіх апазіцыйных партый. Валянціна Леаненка адзначыла: "Абвінавачанні ў тым, што ў нашай краіне парушаюцца правы і свабоды грамадзян, — гэта дэкларатыўная палітыка. Па сутнасці, гэта і ўяўляла сабой канферэнцыя, дзе прадстаўнікі Еўрасаюза і беларускай апазіцыі дзялілі шкуру незабітага мядзведзя. Але ёсць і рэальная палітыка. Яна адлюстроўвае тое, што хаваецца за ўсёй гэтай фразеалогіяй еўрапейскіх чыноўнікаў і палітыкаў».

# БЕЛАРУСЫ СТАЛІ ЖЫЦЬ ЛЕПШ?

*Заканчэнне. Пачатак на стар. 1*

Уладальнік двух гандлёвых павільёнаў на будаўнічым рынку ва Уруччы Сяргей перакананы, што жыць лепш апошнім часам ён не стаў адназначна.

“Раней са сваіх заробкаў я мог планаваць рамонт нядаўна набытай двухпакаёўкі, летні адпачынак у Турцыі і яшчэ шмат чаго, — гаворыць Сяргей. — У гэтым годзе магу дазволіць толькі адпачынак у Егіпце. Канечне, гэта няблага ў параўнанні з многімі іншымі катэгорыямі нашых грамадзян, але ж я і працую за дваіх-траіх”.

Пенсіянерка Таццяна Мікалаеўна і да крызісу не магла сабе дазволіць нават марыць пра Егіпет з Турцыяй, што ўжо казаць пра сённяшні дзень?!

“Я натуральна баюся хадзіць у краму, як і мае сяброўкі-пенсіянеркі. Мы і дагэтуль перапраўляраем усе чэкі, якія нам выбіваюць прадавачкі, — скардзіцца Таццяна Мікалаеўна. — І даўно не купляем ніякіх далікатэсаў, усё толькі самае неабходнае. Пра сённяшнія кошты на прадукты гаварыць ужо надакучыла. Але чаму такія дарагія лекі?! Здараецца, даводзіцца выбіраць паміж наліпрэламам за 110 тысяч рублёў і варанай каўбасой за 45 тысяч за кіло…”.



*Прывіды, адны прывіды*

Яшчэ адна мінчанка, Марыя, жыве разам з мужам. Яна зарабляе каля 5 мільёнаў, муж — 8. Абое ездзяць на машынах.

«Ікру мы, вядома, не купляем, але з ежы практычна ні ў чым сабе не адмаўляем, — кажа Марыя. — Што хочацца, то і купляем. У нашым рацыёне абавязкова прысутнічаюць кашы, агародніна, яблыкі, апельсіны, я часта вару супы. Без мужа, вядома, я не змагла б жыць так, як цяпер. Прыйшлося б сябе ва ўсім абмяжоўваць, але і муж, выходзячы з крамы, здавалася б, толькі з самым неабходным, кажа: «Быццам бы нічога не купілі, а пакінулі 400 000!» Дорага, але жыць усё роўна неяк трэба».

Мінскія маладзёны Алеся і Кірыл маюць агульны даход 7 мільёнаў. Выхоўваюць сына.

«Вопратку купляем даволі рэдка, — кажуць яны. — Практычна ўсе грошы ідуць на прадукты, “камуналку” і дзіця. Касметыку набываем беларускую. Перыядычна дапамагаюць бацькі: мама, напрыклад, кожны тыдзень купляе нам курыцу. Круцімся. Сёння многія так жывуць...».

Як бачым, мінчане з большага трымаюцца і ў сённяшнія няпростыя часы. Наколькі шчаслівыя тыповыя сем’і ў беларускай правінцыі, мы раскажам у наступных нумарах “ТіЦ”.

**ЭКСПЕРТЫЗА**

## «ЯШЧЭ 3-4 ГАДЫ ТАКОГА ІСНАВАННЯ, І МЫ ЦАЛКАМ СТРАЦІМ КВАЛІФІКАВАНУЮ РАБОЧУЮ СІЛУ»

**Эканаміст Сяргей Чалы кажа, што лічбам, на якія спасылаецца прэм’ер-міністр Міхаіл Мясніковіч, верыць можна.**

“На макраўзроўні, па меншай меры, усё добра”, — гаворыць эксперт.

**— Але некаторыя вашы калегі сцвярджаюць, што гэта часовая з’ява.**

— Часовай яна можа быць толькі па палітычных прычынах. Зразумела, што людзі ў асноўнай масе незадаволены тым, што адбыўся фактычна дэмантаж сацыяльна арыентаванай дзяржавы, што і жыллёвыя пытанні ўжо практычна ніяк не будуць вырашацца, і зарплаты рэзка ўпалі. Як прынята казаць, мы цяпер жывём па сродках.

**— Атрымліваецца кагнітыўны дысананс. З аднаго боку, усё быццам бы “ў шакаладзе”, а з іншага, калі браць бюджэт любой сям’і, усе скардзяцца: і тое дорага, і сёе, і звычайны паход у краму — катастрофа для бюджэту. Як так?**

— Адно залежыць ад другога. Раней мы жылі такім чынам, што спажывалі больш, чым зараблялі. Гэта прывяло да дысбалансу ў эканоміцы і ў канчатковым выніку завяршылася крызісам. Зараз у эканоміцы сітуацыя збалансавалася, але атрымалася так, што тыя даходы, якія ў нас ёсць сёння, — гэта тое, што можа дазволіць сабе эканоміка.

**— Ці можна чакаць у нас у абсяжнай будучыні новага крызісу, масавай незадаволенасці грамадзян?**

— Масавай наўрад ці: калі яе не было год назад, то не будзе і цяпер. А што тычыцца крызісу… Гэта гледзячы, што ім называць. Калі нічога вострага не здарыцца — не будзе дэвальвацыі, рэзкай інфляцыі, – то такое “гніенне” будзе працягвацца.

**— І ўва што ў рэшце рэшт усё выльецца?**

— Зараз самае галоўнае пытанне ў тым, што пацыента, умоўна кажучы, вылечылі ад інсульту, а ўсе хранічныя хваробы ў яго засталіся. І далейшай стратэгіі няма.

Ніхто не разумее, як развівацца далей, як павышаць даходы. Дакладней, зразумела, што штучным чынам гэта зрабіць немагчыма, бо здарыцца новы крызіс. Значыць, трэба ствараць рынкавае асяроддзе, займацца прыватызацыяй і лібералізацыяй цэн і г.д. Гэта павінна быць зусім іншая эканамічная мадэль, у якой многія беларускія чыноўнікі сябе не бачаць.

А ніякай альтэрнатыўнай мадэлі няма. І пры ўсім тым, што ў нашых прадпрыемстваў і фінансавае становішча палепшылася, і ўсё быццам бы ў парадку, яны ўпершыню апынуліся ў сітуацыі, калі вымушаны жыць па сродках, ва ўмовах бюджэтных абмежаванняў, калі трэба вяртаць крэдыты. І атрымліваецца, што пасля таго, як адбылася стабілізацыя на макраўзроўні, патрэбны змены на мікраўзроўні.

Мы не пойдзем на вяртанне да старой мадэлі: яна цалкам дыскрэдытавана, але чыноўнікі не выберуць і рынкавую мадэль развіцця, таму што для іх гэта страшна і непрымальна. Значыць, будзем выбіраць нешта сярэдняе.

Але калі ёсць выбар паміж дзвюма альтэрнатывамі, то выбар нечага сярэдняга — гэта самае горшае. Таму мы будзем і надалей знаходзіцца ў такім “балотным” стане. А калі цяпер пакінуць усё як ёсць, то праз тры-чатыры гады такога існавання мы цалкам страцім кваліфікаваную рабочую сілу. І тады ў гэтай краіны наогул не будзе будучыні. Гэта, дарэчы, класічная, шматкроць апісаная ў эканамічнай літаратуры пастка беднасці, якая характэрна для афрыканскіх краін. Там нават знешняя дапамога не дапамагае, бо няма каму ствараць рост эканомікі, няма работнікаў таго ўзроўню, якія маглі б займацца прадукцыйнай працай. Яны жывуць за кошт ААНаўскай дапамогі. Такой будзе і наша будучыня, калі мы спынімся ў сваім развіцці.

**МАРЫНА МІТ**

# СЛАВАКІЯ ВЕДАЕ, ЯК АДАБРАЦЬ У ЛУКАШЭНКІ НАФТАДОЛАРЫ?

Распрацаваны па замове МЗС Славакіі аналіз утрымлівае парады, як гэта зрабіць, не закранаючы інтарэсаў простых беларусаў.

Кіраўнік Асацыяцыі знешняй палітыкі пры МЗС Славакіі **Аляксандр Дулеба** распавёў Еўрарадыё, чаму не ўсе нафтапрадукты беларускай перапрацоўкі аднолькавыя, ці карысталіся іх аналізам славацкія палітыкі і дыпламаты, і чаму іх рэкамендацыі па эканамічных санкцыях не былі прынятыя Саветам міністраў Еўрасаюза.




*Няўжо ударань па нафтадоларах?*

**– Чым канкрэтна займаецца ваша Асацыяцыя і ці сапраўды вы можаце ўплываць на знешнюю палітыку Славакіі?**

– Мы праводзім даследаванні праблем, якія маюць непасрэднае дачыненне да славацкай знешняй палітыкі, нашага міжнароднага статусу, становішча. Наш асноўны партнёр — Міністэрства замежных спраў, і яно ж з'яўляецца нашым сузаснавальнікам.

**– Ці даводзілася па замове МЗС рабіць нейкі аналіз па Беларусі?**

– Ну, да прыкладу, стала пытанне наконт эканамічных санкцый. Я вам дэталі расказваць не буду, але мы зрабілі аналіз на тэму — як можна ўвесці эканамічныя санкцыі такім чынам, каб яны закранулі выключна тую частку нафтапрадуктаў, якая не мае дачынення да расійскай часткі перапрацаванай на беларускіх прадпрыемствах нафты. Мы зрабілі канкрэтны аналіз — як гэта зрабіць. І прадставілі яго. Міністр замежных спраў Дзурында выкарыстаў гэты аналіз падчас сустрэчы са сваімі калегамі з краін ЕС. Калі была дыскусія наконт санкцый — вы ж ведаеце, што там былі розныя пазіцыі. Літоўцы, да прыкладу, былі супраць.

**– Ці можна агучыць нейкія прапановы з вашага аналізу?**

– Як вы ведаеце, у Беларусі зараз дамова з Расіяй — калі перапрацоўваецца расійская нафта, то пошліна за экспарт у краіны прызначэння ідзе ў бюджэт Расіі, а не Беларусі. І галоўнае пытанне было ў тым, ці можна падзяліць тыя прадукты, экспартная пошліна за якія ідзе ў бюджэт вашай дзяржавы і якія знаходзяцца пад кантролем канкрэтных людзей. Проста мы зрабілі аналіз, за якія прадукты па наменклатуры пошліна ідзе ў беларускі бюджэт, з якога завода і гэтак далей.

**– І што даваў у выніку ваш аналіз — што рэжым цягам месяца ўпаў бы?**

– Ну, ён бы не ўпаў цягам месяца толькі з-за гэтага. А вось тое, што гэта было б для рэжыму адчувальна, бо стала б менш грошай на тое, каб фінансаваць рэпрэсіўны апарат — гэта дакладна. Сума, якую атрымліваў рэжым і якая ішла на гэта фінансаванне, да падпісання дамовы з Расіяй даходзіла да 2 мільярдаў долараў у год. Гэта былі чыстыя грошы, якія ішлі на тое, каб субсідаваць сістэму зверху ўніз. Але калі была падпісаная гэтая дамова з Расіяй, то гэтая сума зменшылася — Лукашэнка пайшоў на саступкі і пагадзіўся на тое, што экспартныя пошліны за прадукты з расійскай нафты ідуць у бюджэт Расіі. Даходы рэжыму зменшыліся дзесьці на дзве трацiны. І страта сумы, што застаецца, будучыню рэжыму не вырашае. Але пытанне тут было вось у чым: пастаянна паўтараюцца адныя і тыя ж пазіцыі наконт візавых санкцый. І ўпершыню зайшла размова наконт санкцый эканамічных. І сэнс быў у тым, каб ад гэтых санкцый як мага больш пацярпеў рэжым і як мага менш — грамадзяне Беларусі. А гэта не проста.

**– ...і каб не пацярпелі суседнія з Беларуссю краіны?**

– Адным з артыкулаў гэтага аналізу былі прапановы, каб суседнія краіны ад увядзення такіх эканамічных санкцый пацярпелі як мага менш.

**– Вы знайшлі такі сродак адрозніць нафтапрадукты, экспартныя пошліны за якія ідуць у беларускі бюджэт, ад тых, што папаўняюць бюджэт расійскі?**

– Пакуль гэта наша праца "жывая" — гэтыя аналізы выкарыстоўваюцца МЗС. Пасля таго як мы робім сваю працу, мы не маем права яе публікаваць. Мы можам яе публікаваць тады, калі маем згоду заказчыка. Нам проста заплацілі за працу, якую мы выканалі.

**– Я так разумею, што, нягледзячы на тое, што Дзурында вашы прапановы агучыў, імі не скарысталіся?**

– На ўзроўні ЕС — не. Але гэта была пазіцыя Славакіі. І наша мэта — паўплываць на пазіцыю Славакіі. Мы нацыянальная структура, якая займаецца знешняй палітыкай нашай краіны.

**– Што павінна здарыцца, каб вашы рэкамендацыі былі прынятыя ЕС да выканання?**

– Цяжка сказаць. Таму што прыняцце рашэння ў рамках ЕС — гэта палітычны працэс. А ў выпадку санкцый — калі адна краіна будзе супраць, то нічога і не будзе. Нават калі будуць 26 за, а адна — супраць, не прымуць. Таму мне цяжка нешта прадказаць. Тым больш, што ёсць добрая навіна: Саннікава выпусцілі. Але ёсць яшчэ 13 палітвязняў. У той жа час, калі ёсць пазітыўныя зрухі, то я не думаю, што сітуацыя будзе вяртацца да таго, каб расла палітычная воля ў рамках ЕС на тое, каб прымаць гэтыя санкцыі. Гэта быў крайні выпадак. Пасля таго, што здарылася ў дзень прэзідэнцкіх выбараў і пачалося адразу пасля іх у вашай краіне, тады і была сказана: "Добра, калі не дапамагаюць візавыя санкцыі — давайце думаць пра эканамічныя". Тады такая тэма была пастаўленая.

**– Тым не менш, вы лічыце, што час, каб раскрыць падрабязнасці таго аналізу і яго прапаноў, яшчэ не прыйшоў?**

– Так. Таму тая наша праца да гэтага часу ляжыць у "працоўным" стале нашага МЗС. Той аналіз і тыя нашы прапановы не страцілі актуальнасць.

**ЗМІЦЕР ЛУКАШУК, EURORADIO.FM**

# ЧАМУ МАГІЛЁВУ НЕ ПАТРЭБНЫ ІНВЕСТЫЦЫІ



*Даюць – бяры!*

**Гаворка ідзе пра грошы, якія маглі б быць выкарыстаны для абнаўлення як мінімум трох мікраraёнаў, забудаваных у свой час так званымі "хрушчоўкамі".**

### ЗАМЕЖЖА НАМ ДАПАМОЖА

Гэтыя дамы відавочна аджылі свой праектны тэрмін і для больш як 50 тысяч жыхароў сталі своеасаблівай жыллёвай пасткай: жыць у такіх умовах практычна немагчыма. Збудаванні халодныя, з небяспечнымі балконамі, без ліфтаў. Іх дахі працякаюць, ёсць праблемы дастаўкі вады на апошнія паверхі. Правамі жыхароў магілёўскіх мікраraёнаў яшчэ ў 2008 годзе пачалі апекавацца некалькі грамадскіх актывістаў, якія нават ініцыіравалі стварэнне адпаведнага грамадскага руху.

Ад таго часу замоўчваць праблемы жыхароў "хрушчовак" і не звяртаць на іх ўвагу стала для ўлады больш праблемна, чым было дагэтуль. Таму прадстаўнікі гарвыканкама дазволілі грамадскай ініцыятыве існаваць і выступаць на баку людзей, якія жывуць у старых мікраraёнах, іншым разам пад іх націскам там-сям падлапліваючы фасады і асфалуючы дарожкі ў дварах.

Але ж ініцыятары змагання за правы жыхароў здолелі пайсці далей: яны выйшлі, як кажуць, на замежжа. Праз два гады існавання ініцыятывы Магілёў наведалі прадстаўнікі Галандыі і Чэхіі. У складзе дэлегацый былі сябры Саюза галандскіх муніцыпалітэтаў і Савета чэшскіх гарадоў. Як бачна, гэта былі пасланцы такіх жа грамадскіх ініцыятываў і рухаў, што і магілёўскія змагары за правы жыхароў мікраraёнаў. З той розніцай, зразумела, што ў іх краінах не чыняць ніякіх перашкод для ініцыятыў грамадзян, а наадварот – такія грамадскія ініцыятывы падтрымліваюцца ўладамі, іх удзельнікам прадастаўляюцца словы для выступаў на дэпутацкіх сесіях, яны ў першую чаргу прымаюцца ў кабінетах выканаўчай улады. А маючы такі ўплыў і аўтарытэт, абедзве еўрапейскія дэлегацыі бралі на сябе вырашэнне некалькіх пытанняў для магілёўскіх партнёраў. У прыватнасці, галандцы і чэхі гарантавалі падтрыманне прапаноў ад Магілёва па аказанні дакументальнай, праектнай, тэхналагічнай дапамогі ва ўсім комплексе рамонтных патрэб. Яны таксама бралі на сябе расходы на знаходжанне ў сваіх краінах магілёўскіх дэлегацый ад улад і адпаведных ведамстваў для азнаямлення з практыкай аднаўлення мікраraёнаў і выцягвання іх на сучасны ўзровень выгод, асабліва ў Чэхіі, дзе савецкая ўлада таксама пакінула свой непрывабны след у горадабудаўніцтве. Грамадскім актывістам Магілёва ўдалося арганізаваць сустрэчу гасцей у аддзеле капітальнага будаўніцтва выканкама. Сустрэлі іх там даволі цёпла. Гаворка зайшла і пра непасрэдныя фінансавыя інвестыцыі, калі ўдасца зацікавіць праектам супрацоўніцтва бізнесоўцаў, што цалкам магчыма. На развітанне магілёўскія чыноўнікі прызналіся, што такія дамовы аб супрацоўніцтве з замежнымі структурамі выходзяць за іх кампетэнцыю, таму яны "будуць думаць" і шукаць выйце.

### ЁСЦЬ ПЕРШЫЯ 60 ПОДПІСАЎ!

Актывісты, якія дагэтуль не страцілі надзею на развіццё адносін з замежнікамі, для вяртання тэме актуальнасці скарысталіся тым, што Магілёў абвясціў аб грамадскім абмеркаванні генеральнага плана свайго развіцця да 2030 года. У абнародаваным праекце плана, як адразу заўважылі жыхары мікраraёнаў і абаронцы іх правоў, месца для рэканструкцыі ці хоць бы капітальнага рамонту ў тых мікраraёнах не знайшлося. Праз іх проста "пераступілі". Актывісты пачалі збор подпісаў грамадзян пад зваротам да ўлад аб недапушчальнасці такога ігнаравання іх справядлівых патрабаванняў і роўных з усімі іншымі камунальных правоў. Першыя 60 подпісаў грамадскі актывіст Віталь Макаранка днямі ўжо аднёс у гарвыканкам, зафіксаваўшы іх па ўсёй форме.

**ВІКТАР ВОЙТ**

**ДАРЭЧЫ**

### ЖЫХАРАМ НЕ МОЖА БЫЦЬ ДОБРА, КАЛІ...

**Віталь Макаранка, грамадскі і палітычны актывіст:**

— Мы не пакідалі сваёй ініцыятывы ўвесь гэты час, але варта адзначыць, што і адносіны з замежнікамі ўскладніліся, бо яны не разумеюць няздольнасці нашых гарадскіх улад да самастойных рашэнняў і дзеянняў. У сябе яны даўно б правялі агульнагарадскі рэферэндум, і справа атрымала б неабходную падтрымку з усіх бакоў. У нас, на жаль, усё інакш: гаворка пра так званае мясцовае самакіраванне не больш, чым гаворка. Аднак мы не збіраемся здавацца. Будзем, у прыватнасці, збіраць подпісы, дамагаючыся таго, каб улада звярнула рэальную ўвагу на больш як 50 тысяч гараджан, што могуць застацца па-за клопатам дзяржавы аб "лепшым горадзе на Зямлі", як паведамляюць у нас плакаты і рэкламныя шчыты. Горад не можа стаць лепшым, калі будзе дрэнна жыць яго жыхарам, бо менавіта ім горад абавязаны сваім развіццём і росквітам. Вось чаму грамадскія актывісты і жыхары Магілёва, якіх аб'ядноўвае наша ініцыятыва, маюць намер давесці ініцыятыву да пераможнага канца.

# У РАКАВЕ СКРАЛІ БОЛЬШ ЗА 200 СТАНКОЎ ДЛЯ ГАЛЕННЯ

**Станкі для галення і зменныя касеты да іх на 11 мільёнаў 300 тысяч рублёў ноччу 25 красавіка ўкраў невядомы злодзей са склада прыватнага прадпрыемства «Алдзі-Вест», што ў Ракаве (Валожынскі раён), паведамляе Рэгіянальная газета.**

У міліцыю на наступны дзень пра крадзеж заявіў намеснік начальніка дэпартамента бяспекі прадпрыемства. Паводле яго заявы, склад размяшчаецца ў транспартна-лагістычным цэнтры, які арандуе фірма.

Украдзена 229 станкоў і касеты да іх, паведамляе прэс-служба міліцыі Мінскай вобласці. Заведзена крымінальная справа па артыкуле «Крадзеж».

**СЯРГЕЙ ЗЯНЬКО**

## На пачатку бягучага года ў сталіцы было зарэгістравана працоўных месцаў у 6 разоў больш, чым саіскальнікаў

# БЕСПРАЦОЎНЫЯ-

А па краіне ў цэлым, як сцвярджаюць афіцыйныя крыніцы, апошнія гады ўзровень беспрацоўя надзвычай нізкі — усяго 0,7%. Вось яны, стабільнасць і працвітанне ў дзеянні — зайздроснікам няма чым крыць, акрамя мацюкоў. Калі б не адно істотнае "але": гаворка ідзе толькі пра зарэгістраваных на дзяржаўнай біржы працы. Тых, хто не трапіў у афіцыйную статыстыку, паводле самых сціплых падлікаў, у дзясяткі разоў больш. Чаму беларусы не спяшаюцца карыстацца дапамогай дзяржавы пры працаўладкаванні, высвятляла **"Тут і цяпер"**.

## ЗАЙМІЦЕ МЯНЕ ХТО-НЕБУДЗЬ!

На сайце Міністэрства працы і сацыяльнай абароны змешчаны агульнарэспубліканскі банк вакансій, у які толькі за апошні месяц працадаўцы падалі звыш 21,5 тысячы заявак (ды што там — за суткі іх паступіла больш як 400!). Дзеля цікавасці ўводжу ў радок пошуку слова "журналіст", не пазначаючы ні населены пункт, ні ўзровень жаданай зарплаты. Гм… Вынік пошуку — нуль.

Зрэшты, што тут здзіўляцца — дысбаланс паміж тымі, хто шукае працу і каго шукаюць працадаўцы, відавочны. Так, у Мінску часцей за ўсё спрабуюць працаўладкавацца бухгалтары, юрысконсульты, эканамісты і вадзіцелі, а патрабуюцца, па стане на 25 красавіка, прыбіральшчыкі памяшканняў (231 вакансія), вадзіцелі аўтамабіляў (229), урачы-спецыялісты (225) і медсёстры (181). Прыкладна тая ж карцінка з невялікімі варыяцыямі назіраецца ў рэгіёнах: на Брэстчыне нестае прадаўцоў (85), электрагазазваршчыкаў (98) і электраманцёраў (72), на Віцебшчыне – трактарыстаў (91), на Міншчыне не хапае падсобных рабочых (87). Чаму не знаходзяцца жадаючыя на амаль 1300 вакансій вадзіцеляў аўтамабілей, робіцца зразумела пры больш блізкім знаёмстве з тымі самымі вакансіямі: нават



*Шукаюць дастойную працу ў нас вельмі многія*

на Міншчыне патэнцыяльны заробак найчасцей вагаецца ў межах 1–2,5 мільёна рублёў; зрэшты, і на вакансію вадзіцеля-экспедытара з 4,4 мільёна заробку або вадзіцеля гарадскога аўтобуса з 4,6 мільёна ахвотнікаў знаходзіцца мала.

З астатнімі ўсё яшчэ прасцей: ну, не хочуць у абсалютнай сваёй большасці бухгалтары і юрысты перавучвацца на трактарыстаў і манцёраў, не жадае эканаміст з дыпломам працаваць прыбіральшчыцай — не на тых вучыліся, кажуць. Таму і адмаўляюцца ад "заманлівых" прапаноў біржы працы. Прынамсі, пакуль зусім не прыцісне.

"А я і рада б прайсці перакваліфікацыю і змяніць працу, — пярэчыць мінчанка Святлана Хурс. — За час майго знаходжання ў дэкрэце фірма, дзе я працавала бухгалтарам, спыніла сваё існаванне. Але стаць на ўлік як беспрацоўная і прайсці курсы ад службы занятасці я, бач ты, не магу, бо атрымліваю дапамогу на дзіця да трох гадоў. А сыну толькі нядаўна два споўнілася, значыць, яшчэ год трэба чакаць. І сэнсу мне ў той біржы? Застаецца або працаўладкоўвацца самой (а вы разумееце, з якім жаданнем працадаўцы бяруць на працу жанчыну з маленькім дзіцем) або падпрацоўваць дзесьці нелегальна, без афармлення".

## "А ГРАМАДСКІЯ РАБОТЫ Ў НАГРУЗКУ? НЕ, ДЗЯКУЙ"

Зусім іншай пазіцыі прытрымліваецца "доўгатэрміновы беспрацоўны" Уладзімір Асіпенка: "Пасля каледжа я перабіваўся то менеджарам па продажы, то падпрацоўкамі ў камп'ютарных клубах, а потым надакучыла. Узгадаў старое захапленне відэаздымкамі: цяпер каму прыкольны вясельны ці выпускны ролік зманцірую, каму старыя запісы на "лічбу" пераганю. Ісці працаваць у аналагічныя фірмы на "дзядзьку" няма ахвоты, рэгістравацьІП – таксама: сёння гэты заробак ёсць, заўтра няма, а падатковая як аднойчы за жабры возьме, дык ужо і не злезе. Мама мяне пілуе — "ідзі ў службу занятасці, знойдзеш нармальную працу, стаж будзе ісці…". "Нармальная праца" ў яе разуменні — гэта, відаць, рабочы "Зелянбуда" ці электраманцёр. Я па прыколе зазірнуў аднойчы ў тую службу — "савок" дый годзе! Прапаноўваюць зарэгістравацца, атрымліваць смешную дапамогу і выбіраць паміж неперспектыўнай работай дворніка або санітара, а ў нагрузку — "грамадскія работы" за капейку. Не, дзякуй, я сам якнебудзь. Пакіньце сабе вашы 70 тысяч, у мяне адзін заказ прыносіць у сярэднім 50—100 долараў".

Насамрэч такіх, як Уладзімір (тых, хто не зарэгістраваны беспрацоўным, не адкрыў ІП ці заняты без афіцыйнага афармлення ў незлічоных фірмах і фірмачках) не адзінкі і нават не дзясяткі. Мо таму нас ужо даўно не здзіўляюць крымінальныя зводкі кшталту "невядомыя зламыснікі абрабавалі беспрацоўнага і скралі ў яго N мільёнаў рублёў ды N тысяч долараў"?

Афіцыйна ж стабільнасць квітнее. Напружанасць на рынку працы зніжаецца: на канец студзеня 2012 года суадносіны зарэгістраваных беспрацоўных і колькасці вакансій складалі ў сярэднім 0,6 на 1 вакансію, а па краіне яны вагаюцца ад 0,3 у Мінскім раёне да 1,4 у Хойніцкім Гомельскай вобласці. За мінулы год колькасць зарэгістраваных беспрацоўных паменшылася на 5% у параўнанні з 2010-м, а колькасць прапанаваных вакансій, наадварот, павялічылася. Чароўная лічба 0,7% беспрацоўных па краіне трывала ўпрыгожвае афіцыйную статыстыку з 2010 года (для параўнання: у 2003 годзе было 3,1%, у 2007 — 1%). Але ці значыць гэта, што людзей без работы ў Беларусі рэальна стала менш, а выбару ў іх — больш?

## РЭАЛЬНА VS АФІЦЫЙНА: 10 ДА 1

— Насамрэч 0,7% — гэта фантастыка, — сцвярджае эксперт "Тут і цяпер", старшыня Беларускага кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў Аляксандр ЯРАШУК. — Нават у самыя спрыяльныя часы ў самых развітых краінах ніколі не бывае менш за 2-3% беспрацоўных. Адкуль тады ў нас такая лічба? Справа ў тым, што ёсць розныя методыкі падліку беспрацоўных. Найбольш карэктная і выніковая з іх прапанавана Міжнароднай арганізацыяй працы — гэта апытанне хатніх гаспадарак. Нашу ж сістэму падліку і методыкай не назавеш. Гэта, хутчэй, ідэалагічны падыход, які быў за савецкім часам: у нас, маўляў, дастаткова працоўных месцаў, і гэта не вакансіі малааплатныя ды нізкакваліфікаваныя, а людзі, якія не хочуць іх займаць, лянівыя дармаеды… Беспрацоўнымі ў Беларусі лічацца толькі тыя, хто звярнуўся ў дзяржаўныя службы занятасці. А жадаючых гэта рабіць няшмат, што тлумачыцца і нізкім памерам дапамогі па беспрацоўі (у

# "НЕВІДЗІМКІ"

сярэднім 10—20 долараў), і прыцягненнем зарэгістраваных на так званыя грамадскія работы. Акрамя таго, у органах занятасці ўсё ж ёсць супрацоўнікі, якія выдатна разбіраюцца ў сітуацыі, і часам яны самі рэкамендуюць людзям не рэгістравацца, а шукаць працу самастойна, праз знаёмых і сваякоў, аб'явы і г.д. Што да рэальнай лічбы беспрацоўных у Беларусі, то, з пункта гледжання незалежных экспертаў і нашых спецыялістаў, яна як мінімум у 10 разоў большая за афіцыйную, і гэта па самых сціплых падліках. Сюды, верагодна, варта дадаць і тых, хто працуе па скарочаным працоўным графіку, і тых, хто з'язджае на заробкі ў Расію, — будаўнікоў, нафтаперапрацоўшчыкаў, вадзіцеляў аўтобусаў, якія там могуць зарабіць у 3 разы больш, чым на радзіме.

На думку эксперта, найгоршае ў існуючай сітуацыі тое, што невядомы маштабы праблемы, а значыць, немагчыма распрацаваць і адэкватны комплекс мер па яе вырашэнні. "У сувязі з тым, што наша ўлада не пайшла на эканамічную лібералізацыю і не прызнала рынкавую эканоміку, мы ўжо доўга знаходзімся на раздарожжы і марнуем час і кадры, — разважае Аляксандр Ярашук. — На сёння ў краіне не запатрабавана мноства рабочых рук. Моладзь з вышэйшай адукацыяй імкнецца на Захад, кваліфікаваныя рабочыя арыентуюцца на Усход, а мы так нічога і не робім".

— Адным з абавязковых пунктаў па выхадзе схаванага беспрацоўя з "ценю", мусіць стаць павелічэнне памеру дапамогі па беспрацоўі, — працягвае эксперт. — Бо часта, калі чалавек застаўся без працы, гэта не віна яго, а бяда, і трэба не прыніжаць яго падачкамі, а сапраўды падтрымаць у цяжкай сітуацыі. Гаворка, канечне, ідзе не пра 500 долараў, аднак дапамога мусіць быць больш-менш прыстойнай — роўнай хаця б мінімальнаму заробку цяперашняга беспрацоўнага.



*Краіна невідзімак*

## ТАМ, ЗА ТУМАНАМІ…

Паводле звестак Міністэрства працы і сацыяльнай абароны Беларусі, сярод нашых суседзяў самы высокі паказчык беспрацоўя на пачатак 2012 года адзначаўся ў Польшчы — 10,1%. У Расіі зарэгістравана ўсяго 1,7% (а вось па метадыцы МАП — 6,6%), ва Украіне — 1,9%. З краін Еўропы ў гэтай сумнай статыстыцы лідзіруюць Францыя — 10% і Італія — 9,2%. Беларусь са сваімі 0,7% абыходзіць Фінляндыю (7,5%), Германію (5,8%), Японію (4,5%) і… ды што там — усіх! http://www.mintrud.gov.by/ru/activity/sostojanie/new_url_1961963894

Праўда, пры гэтым дапамога па беспрацоўі ў еўрапейскіх краінах таксама нашмат большая. У Германіі яна складае ад 60 да 85% ранейшага заробку чалавека, а мінімальная фіксаваная сума — 350 еўра http://german-guide.ru/posobie-po-bezrabotice-v-germanii/, у Швецыі — 80% заробку на апошнім месцы працы, ад 320 да 680 крон (31,5–73 еўра) у дзень http://www.eurowoman.eu/shveciya/ucheba-rabota-v-shvecii/314-posobie-po-bezrabotice-v-shvecii, у Польшчы — 80–120% так званай базавай квоты, або 609–913 злотых (звыш 200 еўра). У Расіі на 2012 год усталяваны памер дапамогі па беспрацоўі ад 850 да 4900 расійскіх рублёў http://news.mail.ru/politics/7287629/, ва Украіне — ад 544 да 825 грыўняў.

У Мінску на 1 красавіка 2012 года сярэдні памер дапамогі па беспрацоўі склаў 136,9 тысячы рублёў. http://reporter.by/Belarus/Srednii-razmer-posobija-po-bezrabotice-v-Minske-137-tysjach-rublei/

## ЦУДОЎНАЕ ДАЛЁКА

Яшчэ летась Палата прадстаўнікоў прыняла ў першым чытанні папраўкі ў Закон "Аб занятасці насельніцтва". Сярод іх ці не найбольш істотная — павышэнне стыпендый для беспрацоўных, накіраваных на прафнавучанне: раней гэта было 35—70 тысяч, а паводле паправак можа скласці ад 2 да 8 базавых велічынь (200—800 тысяч рублёў). Жанчынам, якія даглядаюць дзіця ва ўзросце да 3 год, мяркуецца дазволіць прайсці курсы бясплатна, таксама з выплатай стыпендыі. З іншага боку, беспрацоўных мяркуецца абавязаць пастаянна шукаць працу самастойна і інфармаваць службу занятасці нават аб сваім часовым працаўладкаванні.

Разгледзець законапраект канчаткова парламентарыі мусяць у красавіку бягучага года. Але месяц ужо заканчваецца, а добрых звестак штосьці не чуваць. Акрамя адной: колькасць вакансій у Беларусі няўхільна перавышае колькасць беспрацоўных. Ура, таварышы!

**ВІКТОРЫЯ ПРАКАПОВІЧ**

### АФІЦЫЙНА

Толькі ў сталіцы ў складзе гарадскога ўпраўлення занятасці дзейнічаюць 8 аддзелаў працаўладкавання (па колькасці раёнаў): Заводскі, Кастрычніцкі, Ленінскі, Маскоўскі, Партызанскі, Савецкі, Фрунзенскі і Цэнтральны. У кожным з іх для наведвальніка даступны адзіны агульнагарадскі банк вакансій.

Для рэгістрацыі ў якасці беспрацоўнага грамадзяніну неабходна асабіста звярнуцца ў тэрытарыяльны аддзел занятасці, маючы пры сабе пашпарт, працоўную кніжку, дыплом, даведку аб сярэднім заробку за апошнія 12 месяцаў працы, дэкларацыю аб даходах (усяго ў пераліку 12 дакументаў для розных катэгорый грамадзян).

Дапамога па беспрацоўі выплачваецца толькі за 26 тыдняў штогод і на працягу 36 месяцаў з дня рэгістрацыі. Памер яе на сёння, у адпаведнасці з Законам РБ ад 15.06.2006 № 125-З "Аб занятасці насельніцтва", складае ад 70% базавай велічыні да 2 базавых велічынь (70–200 тысяч беларускіх рублёў). Выплата гэтай дапамогі можа быць спынена, а чалавек зняты з уліку беспрацоўных у тым выпадку, калі, напрыклад, ён больш за 3 месяцы не паяўляўся ў органах занятасці без уважлівай прычыны або калі адмовіўся ад прапанoў працы ці прафесійнай перападрыхтоўкі 2 разы, калі змяніў месца жыхарства, быў арыштаваны, трапіў у ЛПП і г.д.

# «СМІ» Ў БЕЛАРУСІ»: ТЫСЯЧА ЕЎРА ЗА ШЭСЦЬ МЕТРАЎ

**Цану арэнды не пацягнула ніводнае незалежнае выданне.**

Выстава «СМІ ў Беларусі» сёлета аб'ядналася з выставай Tibo-2012. Такім чынам, як заяўлялася, «мусяць злучыцца СМІ і высокія тэхналогіі». Абедзве выставы праходзяць у Футбольным манежы — месцы звыклым для Tibo і няўдалым для «СМІ ў Беларусі».

Невялікія плошчы ВЦ «Белэкспа», дзе звычайна прэзентавалі СМІ, надавалі выставе пэўную саліднасць, а на чвэрці вялізнага манежа «СМІ ў Беларусі» выглядаюць неабавязковым дадаткам.

Дый манеж далейшы за «Белэкспа» ад магістральных шляхоў. Ці пацягнецца сюды хто дзеля «СМІ ў Беларусі»?




*У нас сумленне і годнасць кожны разумее па-свойму*

Прэсавых стэндаў на выставе болей за сорак. Але нават буйныя дзяржаўныя выданні атрымалі зусім невялікую тэрыторыю, выступоўцы на прэзентацыях прамаўлялі ў праходах, і праціснуцца па «прэсавай» частцы манежа было складана.

Незалежнай прэсы на выставе няма — як патлумачылі «Нашай Ніве» у Беларускай асацыяцыі журналістаў, арэндная плата за 6 квадратных метраў выставы сёлета складае 1000 еўра, таму незалежныя СМІ "не пацягнулі" аплату.

З замежных стэндаў найбольш кінуліся ў вочы стэнды Кітая і Кубы (таксама невялікія). Першы — дзіўнай назвай «Кітай — да лепшага жыцця» і брашурай «Што вы ведаеце пра Кампартыю Кітая?», другі — вялікай калькасцю фотаздымкаў Фідэля:

Фідэля з Лукашэнкам, Фідэля ў БССР і Фідэля проста на фоне прыроды.

На адкрыццё выставы прыехалі першы намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Аляксандр Радзькоў, міністр інфармацыі Алег Праляскоўскі і міністр сувязі і інфарматызацыі Мікалай Панцялей. Уздоўж стэндаў рэгіянальнай прэсы прагульваўся і рэдактар «Беларускай думкі» Вадзім Гігін.

Пасля досыць невыразнай афіцыйнай часткі (нават адбывалася яна на фоне лагатыпаў Tibo) чыноўнікі выправіліся на экскурсію па экспазіцыі. Увагу Аляксандра Радзькова прыцягнуў вялікі планшэтны камп'ютар на стэндзе газеты «Пераходны ўзрост». Радзькоў нават паспрабаваў авалодаць сакрэтамі майстэрства працы на ім.

А на рэгіянальных стэндах — скрозь раёнкі, беларускія раёнкі.

«Вось на гэтую камеру здымалі Высоцкага», — кажа прадстаўнік стэнда «СМІ Магілёўшчыны», асноўную частку якога складаюць газеты «Савецкая вёска», «Зара на Друццю» і іншыя выданні, назвы якіх глядзеліся на фоне стэндаў Tibo эклектычна. На стэндзе насамрэч стаіць старая савецкая кінакамера, якую калісьці даўно выпісалі ў Маскву, каб здымаць нейкі фільм, а яшчэ знялі і канцэрт Высоцкага. Цяпер камера не працуе, але роля на стэндзе ў яе самая што ні ёсць пачэсная.

У гэты самы час за вуглом, на Tibo-2012, — цалкам еўрапейскія стэнды

Velcom са штучнымі газонамі, Huawei, дзе ў якасці стэнда выкарыстоўваецца грузавік, і прадстаўніцтвы іншых фірм, якія паказваюць, што з высокімі тэхналогіямі ў краіне ў любым разе лепей, чым з прэсай.

**ЮРАСЬ УСКОЎ, ФОТА СЯРГЕЯ ГУДЗІЛІНА, NN.BY**



**Заснавальнік** ТАА "Тут і цяпер" **Адрас** г. Мінск, вул. Касцюшкі, 18
**Галоўны рэдактар** А. Уласаў (email: info@svabodaby.net) **Падпісана ў друк** 23:45 27.04.12
Тыраж 299 экзэмпляраў